№ 2
Лістапад
2012 г.

МАГІЛЁЎСКАЯ
ВОЛЬНАЯ ГАЗЕТА

# зБАЖына



АБ’ЯДНАНЫ СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ВЫДАННЯЎ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ




# Станем за журналістыку!

Еўрапейская Федэрацыя Журналістаў прызначыла на 5 лістапада прафесійную акцыю салідарнасці “Станем за журналістыку!”, гэтым разам прысвечаную тэме пераследу журналістаў у Турцыі і адваёўванню свабоды грамадскага вяшчання.

Магілёўскія недзяржаўныя калегі, у прыватнасці выдаўцы і рэдактары рэгіянальных маланакладных газетаў, далучаюць свой голас да справядлівых патрабаванняў ЕФЖ у абвешчаным напрамку.

А разам мы памятаем і пра тое, што ў Беларусі:

Сярод цяперашніх 12-ці палітычных зняволеных, якія знаходзяцца ў месцах пакарання – трое сябраў БАЖ, то бок – журналістаў. Зараз следчыя органы і КДБ “распрацоўваюць” траіх журналістаў – Анджэя Пачобута (Gazeta Wyborcza), Валеру Булгакава (часопіс Arche), Антона Сурапіна (вэб-сайт). Пад пракурорскімі папярэджаннямі “аб недапушчальнасці неакрэдытаванай дзейнасці” цяпер знаходзяцца 12 журналістаў-фрылансераў.

І памятаем пра тое, што ў Магілёўскім рэгіёне:

У мінулым годзе выключна за прафесійную дзейнасць былі асуджаны на адміністратыўныя арышты 5 журналістаў, сябраў БАЖ. Міліцэйска-пракурорскі ціск ажыццяўляўся і працягвае ажыццяўляцца на выдаўцаў рэгіянальнай “малой прэсы”, на аўтараў мясцовых дэмакратычных вэб-сайтаў і фрылансераў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ.

Як і чым жыве “малая прэса” і іншыя незалежныя СМІ вобласці, распавядаецца ў гэтым супольным нумары спецыяльнага выпуска нашай агульнай газэты “зБАЖына”).

Мы адрасуем гэты супольны нумар і гэтую інфармацыю аб стане журналістыкі ў рэгіёне найперш нашым чытачам, наведнікам вэб-сайтаў, карыстальнікам нацыяльных дэмакратычных выданняў, гледачам Белсату і слухачам радыё Свабода. Таму што і наша “малая прэса”, і нацыянальныя выданні, і радыё Свабода, і тэлеканал Белсат існуюць толькі таму, што маюць чытачоў, слухачоў, гледачоў.



Ніякага іншага тлумачэння прычыны рызыкоўнай у нас (не для дзяржаўных выданняў і электрон-ных СМІ) журналісцкай працы не існуе, акрамя як з-за патрэбы ў ёй неабыякавых людзей, якія маюць права ведаць “што, дзе, калі, з якой нагоды і хто”. Вы прачытаеце зараз пра гэта, што называецца, з першых вуснаў – у газеце, якую трымаеце ў руках…

Я ж толькі падкрэслю, што яшчэ адной адметнасцю незалежнай нацыянальнай журналіскай працы, нягледзячы ні на што, застаецца адданасць калегаў справе, іхнае служэнне праўдзе і сумленню – калі яшчэ і сказаць пра гэта, як не ў дзень міжнароднай акцыі ў абарону вольнага слова і адвечнага права адных грамадзянаў яго вымаўляць, іншых – яго чуць.

Чытайце… Мы спадзяемся, сябры, на вашую зацікаўленасць, на вашую падтрымку, на вашую салідарнасць. І ад вашага і свайго імя нагадаем і ўладзе, чым ёсць вольнае слова, каму і чаму яно служыць. І абвесцім, не хаваючы сваіх імёнаў, аб тым, што наш з вамі выбар і наш з вамі намер, наша з вамі задача і наша з вамі мэта – СТАЯЦЬ ЗА ЖУРНАЛІСТЫКУ!

Астатняе, аб чым марым і на што спадзяемся, яна зробіць сама.

*Генадзь СУДНІК.*



# Галоўная экспертыза

Калектыў нашай газеты ніколі не адасабляў сябе ад рэалій рэчаіснасці, а стрыжнем рэдакцыйнай палітыкі заўсёды было і застаецца імкненне ўплываць на падзеі праз інфармацыю, якую падаем, а не "халодна-староннее" адлюстраванне падзей і фактаў у публікацыях. Наш выдаўца Уладзімер Кудраўцаў, журналісты Мікалай Гердзій, Сяргей Аржанцаў, Мікалай Царкоў, Сямён Панізоўцаў, нашы аўтары і я, рэдактар, адстойваем на практыцы менавіта такі погляд на сучасную



журналістыку ў нашай канкрэтнай дзяржаве і ў наш канкрэтны час – ад самага першага нумара, які выйшаў 20 красавіка 1998 года. А за мінулы ад таго часу перыяд выйшла больш за 350 нумараў.

Гэта, прызнаюся, было і застаецца вельмі няпроста, у сітуацыі, нагадаю і падкрэслю, незарэгістраванасці, бо нашы неаднаразовыя спробы займець афіцыйны статус не далі плёну. Затое шматлікія спробы ўлады нас "зачысціць", ад нас схавацца, нас раз'яднаць -- таксама плёну не прынеслі. Крыві, не станем хлусіць, папсавалі нам нямала і нерваў парвалі шмат – мы прайшлі праз суды і выклікі ў пракуратуру, у міліцыю, у фінансавую інспекцыю, праз канфіскацыю свежых нумароў выдання і абсталявання, з дапамогай якога яно фармуецца, праз паклёпы і пагрозы. Знаем што такое ціск на нашых блізкіх і родных... Аднак – стаім, як і стаялі, за праўду і за журналістыку!

Дакладна сказана – рукапісы не гараць! Словы і справы ацэньваюцца сучаснікамі і застаюцца для нашчадкаў, каб стаць альбо прыкладам і гонарам, альбо – ганьбай. Мы за сябе спакойныя, бо сам Час робіць экспертызу зместу і якасці кожнага нумара "Вольнага горада".

*Сяргей НЯРОЎНЫ.*








*... Калі былі мы маладыя! Сапраўды час бяжыць, ці тое нават і ляціць, хаця й адбываецца гэта ў краіне, дзе практычна нічога дынамічнага не адбываецца. Але гэта ў іх, у іхнай дзяржаве РБ. А ў нашай краіне Беларусь буяе жыццё – пераменчывае, цяжкое, складане, бурлівае. Каму і не знаць гэта, каму і не падтрымліваць гэта як не нам, недзяржаўным вольным журналістам!.. Яшчэ неаднойчы будуць на нашай вуліцы святы. Будуць!*

# "Вольны горад":

# ХРОНІКА ПЕРАСЛЕДУ 2010 - 2012 (СКАРОЧАНАЯ)






**17.07.2010** Выдавец "Вольнага горада" У.Кудраўцаў звярнуўся да пракурора раёна з заявай аб тым, што старэйшыя лейтэнанты міліцыі Э. Краўцоў, С. Мачульны і Ю.Дзюбанаў незаконна арыштавалі наклад апошняга нумара газеты. Разам з імі пры арышце газеты прысутнічаў невядомы чалавек у цывільнай вопратцы, якога, аднак, міліцэйскія афіцэры бездакорна слухаліся. У заяве сп. Кудраўцаў піша: *"На маё перакананне, падставай для учыненага крадзяжу з боку старэйшых лейтэнантаў сталіся крытычныя матэрыялы пра дзейнасць раённай міліцыі. Пераследванне за крытыку, як вядома, супярэчыць закону аб СМІ".*

**20.04.2011** Рэдактару незалежнай газэты "Вольны горад" Сяргею Няроўнаму пракурор Крычаўскага раёну вынес афіцыйнае папярэджанне за артыкул "Чорныя дні", дзе аўтар крытыкуе дзеянні ўладаў, звязаныя з выбухам у метро. Вось як каментуе гэта сам Сяргей Няроўны: *"Я пытаюся ў пракурора: дык што — цяпер крытыка ўвогуле забароненая? У якіх нарматыўных актах яна забароненая? Дзе ў маім артыкуле паклёп, дзе абразы? Ён кажа, паглядзіце там у першым абзацы. І што там?.. Толькі я нахіліўся чытаць, як ён кажа: а не, у другім… І сам не ведае, за што вынес папярэджанне. Я лічу, што тут спэцслужбы больш кіруюць. Пракурор, натуральна, гэта адмаўляў, казаў, што з уласнай ініцыятывы вынес папярэджанне, калі прачытаў свежы артыкул. Але я яму не веру".*

**03.10.2011** Сям'я рэдактара крычаўскай незалежнай газэты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага засталася без афіцыйнага прыбытку. З жонкай, настаўніцай, не падоўжылі працоўны кантракт у мясцовым ліцэі, а сам журналіст не можа знайсці сабе ў раёне працы. Жонка Сяргея Няроўнага Тацяна Лейбуціна адпрацавала ў ліцэі №4 райцэнтру дзесяць гадоў. Чаму адміністрацыя навучальнай установы не пажадала падоўжыць працоўных адносінаў, настаўніцы не патлумачылі. Сама яна лічыць, што кіраўніцтву ліцэя намякнулі, каб яе звольнілі. Магчыма, што іншыя спосабы ўздзеяння на няскоранага Сяргея Няроўнага вычарпаныя.

**07.09.2012** Напярэдадні парламенцкіх выбараў 2012 года на пашыранай апаратнай нарадзе ў райвыканкаме выступіў начальнік Крычаўскага гаррайаддзела КДБ Ілля Краўцоў. У сваім выступе начальнік раённай спецслужбы пагражаў сур'ёзнымі праблемамі тым, хто дае "трэццім асобам" закрытую інфармацыю. Якая інфармацыя пры гэтым з'яўляецца "закрытай" і для якіх "трэцціх асобаў", кіраўнік крычаўскіх байцоў нябачнага фронту не патлумачыў. Аднак бальшыня прысутных на той нарадзе разумелі, што выступ сп.Краўцова на адрас аддзелаў райвыканкама, пракуратуры, дырэкцыі шэрагу прадпрыемстваў быў звязаны з тым, *што* апошнім часам з'яўлялася на старонках "Вольнага горада". Па словах рэдактара газеты Сяргея Няроўнага, не ўпершыню адпаведныя службы ў горадзе маюць на мэце ўскладніць доступ журналістаў да інфармацыі – праз запалохванне верагодных крыніцаў яе атрымання.

**15.09.2012** На звароты "Вольнага горада" да пракурора раёна У.Трывайлы з просьбай даць інфармацыю аб стане барацьбы з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю па выніках 2011 года адказу няма. Журналіст Мікалай Гердзій, ідучы насустрач пракурору, пагадзіўся на тое, каб пракуратура размясціла такі матэрыял у афіцыйнай газэце "Крычаўскае жыццё". Але і там такую інфармацыю знайсці немагчыма… Пра што гэта гаворыць? Журналісты "Вольнага горада" упэўнены, што, як гаворыцца, хваліцца чым няма. А сказаць праўду – яшчэ больш небяспечна. Але для каго небяспечна? Для пракуратуры, вядома, бо для грамадства было б надзвычай карысна ведаць праўду. Але гэтага ўлада не мае на ўвазе ніколі – сведчаць журналісты з "Вольнага горада".



# Дзякуючы чытальніцкай запатрабавальнасці



Прайшло ўжо дзевятнаццаць гадоў з таго часу, калі нашы чытачы атрымалі першы нумар незалежнай дэмакратычнай газеты "Паходня". Ён пабачыў свет 1 верасня далёкага ўжо 1993 года, калі "Паходня" упершыню была выдадзена як газета дэмакратычных арганізацый Бяльніцкага раёна. Нават не верыцца, што мінула ўжо столькі часу і адбылося столькі розных падзей!

Першым рэдактарам і выдаўцом газеты быў, тады яшчэ зусім малады, вядомы беларускі пісьменнік і краязнаўца Міхась Карпечанка, які ўклаў шмат сіл і талента ў станаўленне газеты. Менавіта сп. Міхась стварыў падмурак выдання і вызначыў далейшы накірунак працы. На працягу 1993-1994 года пабачылі свет адзінаццаць нумароў выдання, газета выходзіла раз на месяц даволі рэгулярна, але затым для ўсёй незалежнай прэсы насталі цяжкія часы і, на вялікі жаль, і нашай газеце давялося перапыніць свой выхад.

Аднавілася выданне газеты ў студзені 2000 года, калі ў Бяльніцкім раёне пачаўся працэс кансалідацыі грамадскіх арганізацый дэмакратычнай скіраванасці і распачаў сваю працу Бяльніцкі раённы цэнтр грамадскіх арганізацый. Ён і прытуліў "Паходню", якая стала культурна-асветніцкім і інфармацыйна-аналітычным бюлетэнем. Вялікую ролю ў адраджэнні газеты зноў жа адыграў Міхась Карпечанка, але сумяшчаць працу ў раёнцы з праблемнай пасадай рэдактара неафіцыйнага выдання станавілася ўсё цяжэй і ён саступіў месца вядомаму ў нас актывісту сацыял-дэмакратычнага руху мастаку Генадзю Лапо. "Паходню" удаецца некаторы час выдаваць рэгулярна, але ў верасні 2001 года з-за недахопу фінансавых сродкаў і вялікага ціску з боку мясцовых (і не толькі) уладаў яна зноў вымушана прыпыніць свой выхад…



Лёс наканаваў у чарговы раз адрадзіць выпуск "Паходні" ужо мне і адбылося гэта толькі дзякуючы падтрымцы абласной Рады Руху БНФ "Адраджэнне" і асабіста яе тагачаснага старшыні Рыгора Кастусёва. Нанова газета вярнулася да таго, што ізноў сталася грамадска-палітычнай. Канешне, і пасля адраджэння газеты ўзнікала шмат праблем, прыходзілася некалькі разоў прыпыняць выпуск "Паходні" з-за недахопу фінансавых сродкаў і, зноў жа, з-за ціску на яе з боку ўладнай "вертыкалі" і праваахоўных органаў. Давялося адмовіцца ад ідэі зарэгістраваць газету ў Міністэрстве інфармацыі, каб мець магчымасць выходзіць больш вялікім накладам, бо чыноўнікі высокага рангу адразу ж папярэдзілі, што нічога з гэтай задумкі не атрымаецца. Складанасцяў было шмат, нерваў парвалі "любімыя" кіраўнікі і "пільныя" супрацоўнікі міліцыі і КДБ многа. Хапала ўсяго. Асабліва цяжкі перыяд быў у 2011 годзе, калі, пасля разгону Плошчы і арышту цэлага шэрагу грамадскіх актывістаў, дэмакратычная супольнасць нашай краіны пэўны час знаходзілася ў стане разгубленасці і апатыі.

У рэшце рэшт удалося выстаяць і працягнуць выпуск "Паходні": з лютага 2012 года наша грамадска-палітычнае выданне зноў рэгулярна выходзіць два разы на месяц. Вялікая заслуга ў гэтым найперш Беларускай асацыяцыі журналістаў. Зараз у газеце мы друкуем як свае мясцовыя матэрыялы, так і артыкулы журналістаў з іншых рэгіёнаў вобласці. Таксама выкарыстоўваем і цікавыя матэрыялы з інтэрнэта, асабліва тыя, што хоць нейкім чынам датычацца рэгіёна. Радуе, што "Паходня" знаходзіць свайго чытача і верных прыхільнікаў. Рэгулярна тэлефануюць знаёмыя і незнаёмыя людзі, каб падзяліцца сваімі меркаваннямі наконт змешчаных у газеце артыкулаў, у Бяльнічах сустрэчныя даволі часта просяць даць пачытаць новыя нумары газеты.

Безумоўна, складанасцяў і перашкод таксама хапае. Хоць зараз мяне ўжо не затрымліваюць проста на вуліцы супрацоўнікі міліцыі пасля выхаду чарговага нумара "Паходні", як гэта здаралася яшчэ некалькі гадоў таму, і не выклікаюць на прафілактычныя гутаркі нашчадкі "жалезнага Фелікса", што таксама мела месца не так даўно. Аднак па-ранейшаму незалежнаму журналісту практычна немагчыма атрымаць нейкую, нават самую нязначную, афіцыйную інфармацыю ад чыноўнікаў з дзяржаўных структураў і ад спецыялістаў дзяржаўных прадпрыемстваў. Даводзіцца здабываць яе нейкімі акольнымі шляхамі з выкарыстаннем уласных сувязяў і на ўмовах поўнай ананімнасці крыніцаў інфармацыі. Што ж зробіш, – як кажуць самі чыноўнікі, краіна ў нас такая…

ПАХОДНЯ
Верасень 2012 г.
№ 16(139)
Грамадска-палітычная газета

Самае кепскае, што вельмі часта гэту цікавую і актуальную інфармацыю даводзіцца прытрымліваць “пры сабе” і не даносіць адразу ж да чытача, бо не маеш магчымасці пераправерыць яе па іншых крыніцах, а гэта ж адзін з асноўных журналісцкіх прынцыпаў, каб заставацца аб’ектыўным. Праўда, радуе, што практычна заўсёды пазней інфармацыя спраўджваецца, значыць насамрэч крыніцы надзейныя і кажуць праўду.

Узнікалі ў гэтым годзе праблемы і з распаўсюдам незалежнай прэсы. Мы ўжо амаль забыліся пра тыя часы, калі “Паходня” ды іншыя дэмакратычныя рэгіянальныя выданні распаўсюджваліся ў Бялыніцкім раёне шляхам раскідвання па паштовых скрынях, практычна ўсе газеты чытачы забіраюць у распаўсюднікаў. Распаўсюд па паштовых скрынях зараз зрэдку робіцца ўжо як пэўная піяр-акцыя, калі мы хочам прыцягнуць увагу як сталых, так і новых чытачоў да нейкага асабліва актуальнага і цікавага артыкула. На працягу апошніх гадоў асноўны наклад газеты “Паходня” і іншых дэмакратычных выданняў нашага рэгіёна распаўсюджваўся праз краму, дырэктарам якой з’яўляецца вядомы дэмакратычны актывіст Мікалай Мяцеліца. Зойдуць да яго калі-некалі супрацоўнікі праваахоўных органаў, возьмуць пачытаць свежы нумар, і пойдуць далей. Канешне, спрабавалі і ціснуць на яго, але нічога з гэтага не атрымлівалася, бо ніякіх законаў сп. Мікалай не парушаў. Але ўсё ж крама, дзе кожны мог узяць незалежную газету, ды і якая да таго ж месцілася ў самым цэнтры Бялыніч, побач з райвыканкамам, некаму муліла вочы. І яе вырашылі прыкрыць іншым шляхам, пры дапамозе супрацоўнікаў падраздзялення па надзвычайных сытуацыях. Доблесныя бялыніцкія пажарнікі вынеслі прадпісанне, што крама сп. Мікалая перашкаджае... эвакуацыі грамадзян з Дому быту ў выпадку пажару. І ад чэрвеня гэтага года адміністрацыя ўстановы не працягнула з прадпрымальнікам дамову аб арэндзе. Паводле пэўных адгалоскаў, выратавальнікі звярнулі ўвагу на пажарную небяспеку менавіта пасля гутаркі з супрацоўнікамі іншага паважанага ведамства, якое павінна была б лавіць шпіёнаў, а не перашкаджаць распаўсюду незалежнай прэсы. Аднак гэта ўсяго толькі чуткі, і пацвердзіць гэтую інфармацыю мы ніяк не можам... Дзякуй Богу, сп. Мікалай змог знайсці новае памяшканне для сваёй крамы, і ў гэтым новым памяшканні знайшлося месца для рэгіянальных дэмакратычных газет. А ў хуткім часе туды знайшлі дарогу і іх сталыя чытачы.

На маю думку, хоць усім дэмакратычным журналістам у нашай краіне працаваць складана, усё ж найбольш перашкодаў у сваёй працы маюць якраз журналісты-фрылансеры. Згодна беларускага заканадаўства, яны нават не лічацца журналістамі, бо журналіст у Беларусі – гэта той, які мае пасведчанне пэўнай рэдакцыі СМІ. Таму і дабываць нейкую інфармацыю нам нашмат цяжэй, і праблемы з чыноўнікамі і супрацоўнікамі праваахоўных органаў узнікаюць нашмат часцей. Праблему гэтую мы неаднаразова ўзнімалі перад кіраўніцтвам БАЖ, ішлі нават нейкія размовы аб тым, каб заснаваць сваё выданне, якое зможа афіцыйна выдаваць пасведчанні журналіста СМІ сябрам арганізацыі, аднак далей размоваў справа не пайшла, на жаль. Можа на гэта ёсць свае аб’ектыўныя прычыны, пра якія мне невядома – тады было б нядрэнна пра іх паведаміць і нам.

Хачу закончыць свае нататкі на аптымістычнай ноце: нягледзячы на цяжкасці, газета “Паходня” ды іншыя маланакладныя выданні Магілёўшчыны ўсё ж выходзяць, і людзі іх чытаюць. А таму хочацца верыць, што ўсе гэтыя газеты працягнуць свой выхад і ў наступным годзе.

*Барыс ВЫРВІЧ.*

# Віншуем з Юбілеем!




*Старэйшы ў вобласці незалежны журналіст Мікалай Царкоў хутка адсвяткуе сваё 80-годдзе. І мы верым, што ён застанецца такім жа бадзёрым і шчырым чалавекам, такім жа сумленным журналістам, якога любяць і знаюць ужо шмат год ягоныя калегі і сябры ў Чэрыкаве, Слаўгарадзе, Крычаве... Малалетні ўдзельнік Ленінградскай блакады, настаўнік і выхавацель моладзі, ён шмат гадоў аддаў педагагічнай працы. У родным Чэрыкаве ўлада неаднойчы спрабавала, спекулюючы на ягоным ваенным мінулым і на добрасумленнай шматгадовай працы, так бы мовіць, перацягнуць ветэрана на свой бок. Але для Мікалая Царкова – нашага шаноўнага сябра і калегі – няма нічога больш важнага, чым чыстае сумленне і служэнне праўдзе.*



# Статус дыктуе стыль



Наш "УзГорак" – адзіная ў рэгіёне афіцыйна зарэгістраваная недзяржаўная газета. Што і казаць, гэта накладае свае абавязкі і дыктуе свой стыль. Аднак, нягледзячы на паслядоўна ўзважаную пазіцыю па любых тэмах, якія асвятляюцца ў нашай газеце, уладамі яна разглядаецца як апазіцыйнае выданне. А вось прыхільнікам так званай вострай прэсы, якая не выбірае выразаў, многія тэмы, што падымаем, могуць падацца не такімі і важнымі (ведаем пра такую думку). Аднак для мясцовых жыхароў, для якіх працуем, мы з'яўляемся адзінай газетай, якая наважваецца асвятляць праблемы, што іх датычаць, і якая дае слова нязгодным з уладамі людзям. Паспрабуем гэта пацвердзіць фактамі…

НАВІНЫ З ГОРАК, ДРЫБІНА І МСЦІСЛАВА Ў АДНОЙ ГАЗЕЦЕ

18 кастрычніка 2012 г.
чацвер
№42 (176)

ISSN 2075-941X



**УзГорак**

цана ў розніцу свабодная

АБЛАСНАЯ АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА. ВЫХОДЗІЦЬ ПА ЧАЦВЯРГАХ. ЗАСНАВАНА Ў КРАСАВІКУ 2009 ГОДА. PDF-АРХІЎ ВЫДАННЯ ГЛЯДЗІЦЕ НА САЙЦЕ WWW.HORKI.INFO

У першай палове 2012 года мы надрукавалі немала артыкулаў, якія выклікалі гарачую падтрымку чытачоў. Сярод іх – і на агульнанацыяльныя тэмы, але больш – на мясцовыя.

Гэта былі матэрыялы пра такія, у прыватнасці, праблемы, як адсутнасць рамонту на негалоўных вуліцах; рэканструкцыя горада да "Дажынак" без уліку патрэбаў мясцовых жыхароў; транспартныя праблемы горада; захаванне мясцовай гісторыка-культурнай спадчыны на прыкладзе дома Максіма Гарэцкага ў Горках; абарона рабочых, якія працавалі на дажынкаўскіх аб'ектах і іншыя.

Гэта былі матэрыялы пра справу Бяляцкага, узмацненне рэжыму ўвязнення для Статкевіча, Дашкевіча і Аўтуховіча, заявы ААН і ЕС па Беларусі, пра вулічную акцыю інвалідаў-вазочнікаў у Мінску, пра палітычных вязняў, страйк на "Граніце", пра стан з правамі чалавека і свабодай слова ў Беларусі (артыкулы ад цэнтра "Вясна" і ад БАЖу).



Гэта былі матэрыялы пра стан эканомікі і сацыяльных праблемах раёна ад лідэра мясцовага дэмакратычнага руху Андрэя Юркова.

У другой палове 2012 года мы з'яўляліся адзіным у рэгіёне друкаваным выданнем, якое з розных бакоў і сумленна асвятляла тэму парламенцкай кампаніі, а таксама і першай паведаміла пра ўсе недахопы будаўнічай падрыхтоўкі да "Дажынак", якія выявіліся адразу па сканчэнні свята. Ну, а што тычыцца ўвагі да нас з боку раённай вертыкалі і яе ідэалагічнай службы, то вось некалькі відавочных фактаў на гэту тэму.

На працягу ўсяго года мы сутыкаліся з праблемай арэнды памяшкання для размяшчэння юрыдычнага адрасу рэдакцыі. За год нам давялося тройчы змяніць юрыдычны адрас. Пры гэтым да нас не было ніякіх нараканняў на непрыдатнае выкарыстанне памяшкання альбо на неаплату за яго. У апошнім месцы мы пратрымаліся ўсяго каля трох месяцаў. Нашы арэндадаўцы (у прыватных размовах) прызнаюцца, што скасаванне з намі дамоваў на арэнду тлумачыцца *"настойлівымі просьбамі з боку мясцовай улады"*.

Абмежаванне на атрыманне інфармацыі сёлета найбольш яскрава праявілася падчас выбарчай кампаніі. Горацкая акруговая выбарчая камісія адмовіла нам у атрыманні дадзеных з свайго выніковага паседжэння. А падчас сустрэчаў з выбаршчыкамі рабіліся перашкоды пазаштатнаму фотакарэспандэнту нашага выдання. Праўладны кандыдат са згоды старшыні камісіі забараніў здымаць ягоныя сустрэчы з народам, спасылаючыся на тое, што ў фотакора не было пасведчання ад рэдакцыі. Але пасля з'яўлення ў нашага няштатніка такога пасведчання нічога не змянілася.

Вядома нам і такое, як ціск на аўтараў. Здарылася гэта са студэнтам сельскагаспадарчай акадэміі. Ён напісаў нам артыкул, і мы яго надрукавалі, аб рэзкім і неаргументаваным павышэнні коштаў на арэндаванае жытло ў Горках, а таксама аб праблемах пры засяленні ў інтэрнаты. І адразу пасля публікацыі актыўны студэнт зазнаў ціск з боку адміністрацыі.

… Мы, як гаворыцца, нічога не забываем. Але асноўны час і сілы аддаем захаванню газеты, як ужо сказана, адзінай недзяржаўнай, што за шмат колькі апошніх год зарэгістравана ў нашай вобласці. Упэўнены, што рызыкаваць яе лёсам, а гэта значыць, пакрыўдзіць і падмануць нашых чытачоў, недапушчальна.

На тым стаім!

*Галіна БУДНАЯ.*

# Свядомасць – наш саюзнік

Хутка будзе 5 год як на ўсходзе вобласці паўсталі адразу 4 вольныя газеткі. Адна з іх – клімавіцкая “Інфа-Панарама”, якую маю гонар рэдагаваць. Зараз яна выходзіць, што называецца, самастойна два разы на месяц, на 8-мі старонках (першыя выпускі нам дапамагалі рабіць крычаўскія сябры, а больш за іншых Мікалай Гердзій). Газета распаўсюджваецца метадам “з рук у рукі” і мае шмат прыхільнікаў. Увогуле, я магу засведчыць, усходнія рэгіёны маюць асаблівую цікавасць і запатрабаванасць да непадцэнзурнага друкаванага слова. Так склалася за доўгія часы адсутнасці тут незалежнай інфармацыі і пэўнай стомленасці ад афіцыйнай прапагандысцкай мясцовай журналістыкі. Ні пра што сапраўды важнае для разумення часу дазнацца з нашых раёнак нельга – адныя пераможныя рапарты, дзяжурныя справаздачы ведамстваў, павярхоўныя паведамленні аб паседжаннях райвыканкаму. А жыццё навокал не супадае ні ў рытме, ні ў змесце з ідэалагічнай завядзёнкай. Таму да нас і пільная ўвага з гэтых кабінетаў. Да мяне ў прыватнасці – і да выбуху ў мінскім метро хацелі мяне прывязаць, псіхалагічна напалохаць. І стварыць вакол мяне і газеты пэўны чалавечы і інфармацыйны вакуум. Дырэктараў розных установаў з райвыканкаму папярэджвалі не мець з “Інфа-Панарамай” ніякіх стасункаў, не даваць нам ніякай інфармацыі, і загадвалі ўвогуле не чытаць нас. Тым, хто парушыць распараджэнне, былі абяцаныя службовыя непрыемнасці. Аднак мы ганарымся тым, што большасць людзей, ды і кіраўнікоў, у гэтых установах не спужаліся і працягваюць і чытаць нас, і даваць нам інфармацыю аб сапраўдным стане эканомікі і сацыяльным развіцці сваіх устаноў і раёна ў цэлым. Адсюль да нас існуе пэўны давер, бо людзі чытаюць пра тое як жывуць – праўду. Мы ж таксама падаем і альтэрнатыўную да дзяржаўна-афіцыйнай палітычную інфармацыю ў межах усёй краіны. Зноўтакі даводзіцца спасылацца на стан усходу – тут менш знаюць пра тое, што робіцца ў краіне, у сталіцы, у абласным цэнтры, не гаворачы пра суседнія краіны. Такая інфармацыя, як гаворыцца, “разбіраецца” за хвіліны, жыва абмяркоўваецца, шукае і чакае працягу. Мы стараемся не адставаць ад гэтых запатрабаванняў. Такім чынам і падтрымліваем адзін аднаго – асэнсаваны, свядомы выбар нашых людзей на чытанне вольнай газеты – наш самы надзейны і трывалы набытак і саюзнік.



Мы стаім за журналістыку ў штодзённай сваёй практыцы і працы. Таму што імкнемся рабіць простыя, на першы погляд, рэчы, але тыя, на якіх і трымаецца нашае рамёства і наша справа. А менавіта мы:

**Інфармуем**
**Асветнічаем**
**Спрыяем ўтварэнню нацыі.**

І робім гэта і будзем рабіць, нягледзячы на перашкоды, ціск, запалохванні. А таксама – пераадольваючы грамадскае раўнадушша пэўнай часткі (на жаль, немалой) нашых людзей, пераадольваючы іхнае неразуменне і варожасць. Бо верым – праўдзівае вольнае слова абавязкова пакідае станоўчы след у свядомасці, у памяці, у душы. А значыць яно і пераможа!

*Сяргей АРЖАНЦАЎ.*



КЛІМАВІЦКАЯ
ІНФА-ПАНАРАМА
№18(94)
20 кастрычніка 2012
Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# ІНФАРМАЦЫЯ ПЕРАМОЖА

Доступ да інфармацыі сёння ў нашай краіне з'яўляецца адной з вялікіх праблем, бо ўладзе ўсіх узроўняў сапраўды ёсць што хаваць ад людзей, а менавіта – праўду. Мае нядаўнія студэнты, якія зараз спрабуюць адаптавацца на працоўных месцах, ставяць нізкую адзнаку існуючаму ў нас менэджменту як у дзяржаўных установах, так і на прыватных прадпрыемствах. Па-просту амаль усе яны характарызуюць сітуацыю, як “дурдом” (ганаруся, дарэчы, тым, што навучыў іх не заплюшчваць вочы на рэаліі жыцця і не прыстасоўвацца да ўсяго ненармальнага, што прапануе дзяржава). А з гэтым яны сутыкаліся, калі яшчэ былі студэнтамі. Немагчыма было падчас практыкі здабыць статыстычныя дадзеныя пра вынікі працы прадпрыемстваў, дзе яны праходзілі практыку. Пры тым, што такая статыстыка павінна быць адкрытая, па закону і па нармальнасці. Не, у нас – сакрэтна ўсё! Ну, і як можна аналізаваць дасягненні альбо памылкі, не ведаючы дакладнага стану вытворчасці?!.. Ды што студэнты – у мяне такое адчуванне, што рэальнага стану не ведаюць кіраўнікі гарадоў, раёнаў, рэгіёнаў. Каб не недзяржаўная газета *“УзГорак”*, напрыклад,





то гэтыя кіраўнікі так бы і не ведалі, што не паспелі тыя “Дажынкі-2012” скончыцца, як у Горках усе іхныя аб’екты пачалі развальвацца.

Амерыканскія эканамічныя вучоныя (а лепшай школы ў свеце няма) налічылі 22 фактары, што актыўна ўздзейнічаюць на эфектыўнасць вытворчасці -- інфармацыя як такая займае ў гэтым пераліку пачэсны пяты радок. На жаль, у нас сталася правілам з боку дзяржаўных установаў утойванне інфармацыі. А гэта ні што іншае як дэзінфармацыя, якая і пранізвае зараз усе пласты грамадства. Куды не павярнеш галаву – усюды мана, падман, замоўчванне альбо скажэнне праўды.

Вось вам Адзіная эканамічная прастора – як толькі з ёй не носіцца афіцыйная прапаганда! А вось тым, каб патлумачыць, што даюць гэтыя і іншыя “інтэграцыйныя працэсы” звычайнаму чалавеку, улада не займаецца. Пакуль што нічога добрага не даюць – гэта людзі і самі бачаць. Так і будзе заўсёды, альбо сітуацыя зменіцца – калі? за кошт чаго? што трэба рабіць? – пра гэта ні слова з афіцыйных крыніцаў. Трывала жывём па схеме: утойванне, скажэнне, частковае асвятленне (гэта здараецца, калі кіраўнік краіны прагаворваецца аб нечым… Як, напрыклад, нядаўна пра тое, што яму прапаноўвалі хабар у 5 мільярдаў доляраў за продаж калійнай вытворчасці).

… Не знаю, што б людзі ведалі пра рэальны стан краіны і пра сваё жыццё, калі б не вольная прэса. А таму мясцовая ўлада ў тым жа Шклове праяўляе пільнасць да любога з’яўлення ў раёне незнаёмых людзей з фотакамерамі, а не дай Божа – з відэакамерай. Да смешнага даходзіць, хаця гэта насамрэч вельмі сур’ёзна. Нейкі час таму мне давялося рыхтаваць матэрыял для нашай газеткі “Шклоў-інфо” пра свята раёна, суправаджаючы пры гэтым і прыезджых незалежных журналістаў з відэакамерай. Нас зацікавіў у прыватнасці не надта дарэчны тут помнік “безымяннаму рускаму гусару” – але як толькі пачалі яго здымаць, да нас падляцеў сам кіраўнік раённай ідэалагічнай службы спадар Артамонаў. І пачалося: хто такія, чаму здымаеце менавіта тут, для каго прадназначаны матэрыял!? Нашы аргументы і спасылкі на беларускае заканадаўства (а яно дазваляе *любому* грамадзяніну рабіць тое, што рабілі мы) ніякага ўражання на начальніка райвыканкамаўскага аддзела не зрабілі. Больш таго, магчыма, што менавіта ён замацаваў за намі нейкага “сакрэтнага” назіральніка ў спартовым касцюме, які “непрыкметна” хадзіў за намі на працягу ўсяго далейшага дня…

З апошніх прыкладаў – Бабруйск, дзе мне давялося быць незалежным назіральнікам. Немалымі высілкамі – бо сам старшыня гарвыканкама сп.Бонахаў даводзіў групе назіральнікаў, што гэта неабавязкова -- удалося дамагчыся такой простай рэчы, як знаёмства са спісам выбаршчыкаў на адным, усяго-та, участку. А тут у чым сакрэт, у чым тайна?! У інэрцыі, у звычцы не даваць нічога тым, хто не з’яўляецца прадстаўніком вышэйшай уладнай ступені. Якая там грамадскасць, якія такія незалежныя назіральнікі?.. Гэта многім служкам улады сапраўды цяжка сабе ўцяміць і зразумець, бо так да іх – да незалежнага грамадства, а на іхным жаргоне “пятай калоны” – ставіцца вышэйшая ўлада.

І толькі незалежная прэса можа тут усё паставіць на месца. Нават і такая малая, як наша “Шклоў - інфо”… Чаго нам не стае, так гэта карэспандэнтаў, пастаўшчыкоў інфармацыі з калектываў, гаспадарак, установаў. Крыўдна бачыць і разумець, што гэта адбываецца з-за запужанасці людзей і ціску на іх. Але ж ёсць і смелыя людзі, ды нават і ў самых высокіх інстанцыях, бо адкуль бы мы без іхнай дапамогі даведваліся пра рэальны стан спраў у раёне і пра розныя “персанальныя” адметнасці і сітуацыі. А з-за інфармацыі, якой больш нідзе няма, і карыстаецца наша выданне аўтарытэтам і папулярнасцю. Зараз у нас нават ёсць мэтавая група, якая праяўляе ініцыятыву па распаўсюду па раёну нашага ды іншых прыстойных выданняў. А праз гэта пашыраецца і самое поле, на якім ужо даволі выразна падрастаюць парасткі дэмакратыі і прагі да добрых пераменаў.

Прыемна ўсведамляць, што гэта адбываецца не без дапамогі з боку рэгіянальнай незалежнай прэсы, у ліку якой і наша газэта. А яе сцяг, яе напрамак, яе дэвіз – інфармацыя! Інфармацыя толькі і здольная перамагчы цемру, абыякавасць, няведанне, апатыю.

З перамогі над імі прыйдуць і іншыя часы.

***Пётр МІГУРСКІ.***



“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)

**ШКЛОЎ інфо** №18(60) кастрычнік 2012

ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА

***Беларуская нацыянальная журналістыка як прафэсія, што па вызначэнні мае грамадзянскую місію адказнасці за змест, інфармацыйны складнік і праўдзівасць кожнага свайго слова, сваімі высілкамі ратуе грамадства. Бо – настойліва і ўпарта, цвёрда і непахісна падае сігнал аб тым, што для прыстойнага жыцця і для будучага дзяцей недастаткова быць насельніцтвам на пэўнай тэрыторыі, а варта і неабходна як мага шчыльней і хутчэй станавіцца народам і краінай.***

**Генадзь СУДНІК.**



“ЗБАЖЫНА”
Аб’яднаны спецыяльны выпуск незалежных дэмакратычных выданняў Магілёўшчыны
Адказныя за выпуск - Генадзь Вітольдавіч СУДНІК, Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ

Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб сродках масавай інфармацыі”
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: brylibelarus@gmail.com

Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 31.10.2012. 10.00.
Наклад 299 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.